# А ХТО ТАМ ЗАСЕЎ?..

*старонка сатыры і гумару*




• У Жалудку сьвінагадоўчы комплекс на 25 тысяч галоваў пабудавалі на рацэ Жалудоўка, якая ператварылася ў гноевы сьцёк, які сьцякае ў раку Лебяду, якая ператварылася ў гноевы сьцёк, які сьцякае ў адвечны Нёман, які ператвараецца ў гноевы сьцёк...

Дзе крынічная Котра ўпадае ў Неман, раней адпачывалі ў сьвяточныя дні гарадзенцы. Калгас "Путь к коммунизму" пабудаваў у тым мейсцы комплекс на 22 тысячы сьвіней. Крынічная рыбная Котра ператварылася у гноевы сьцёк...

• У Іўі, Крацішках карэнныя людзі, якія ўжо размаўляюць на беларуска-расейскай трасянцы, пачуўшы беларускую мову, пытаюцца: "Вы прыехалі з Польшчы?" -- і пераходзяць на беларуска-польскую трасянку.

• Дзьве гродзенскія беларускія тэатралкі наведвалі амаль усе сьпектаклі, што прывезьлі ў Гародню на фестываль беларускія тэатры. У малой зале ішоў сьпектакль студыі "Дзе я", які называўся "Уладзімір Караткевіч"Роспач"(?!) Вы не чыталі такой п'есы ў Караткевіча? А тэатралкі паглядзелі... Там беларусы сваіх немаўлят запіхваюць у бочку і бяруць за гэта трыццаць юдавых сярэбранікаў...

Тэатр-студыя кінаактора ставіў "Гамлета". Беларускія тэатралкі на мове абураліся, што ў сьпектаклі шмат крыку, мітусьні, няма шэкспіраўскага драматызму... Іх падслухала сапраўдная гродзенская тэатралка і заўважыла: "Приехали с вёски на "Гамлета", им "Живониху" только падавай!"

## вачыма сталініста



— *Padkažycie, kali łaska, dzie ŭ „Tałaki" zapiswajuć?*

Нефармал і бюракрат: спроба дыялогу



На партканферэнцыі ў Шчучыне ў канцы сакавіка прадстаўнік Гродзенскага абкама КПБ Аляшкевіч інфармаваў мясцовы партактыў, як змагацца з беларускімі суполкамі, якіх у Шчучыне няма.

## Лізін – народу

Біяхімічны завод у Скідалі будуецца!!!

Гродзенцы памятаюць, як пасьля стыхійных мітынгаў у Гародні ды калектыўнага ліста, падпісанага акадэмікам Ю.М. Астроўскім і супрацоўнікамі інстытуту біяхіміі АН БССР, старшыня аблвыканкама на сесіі даў слова дэпутатам, што біяхімічны завод будавацца ня будзе. Народ паверыў і супакоіўся.

Але ў Скідальскім СПТВ№199 ужо вучацца будучыя апаратчыкі ферментацыі прэпаратаў біясінтэза. Праўда ў 1988-89 набралі толькі адну групу заміж запланаваных дзьвюх. Ужо будуецца жылы дом для будучых работнікаў завода.

В. Лучко, дацэнт кафедры біятэхналогіі Гродзенскага універсітэту, даказвае ў лісьце да акадэміка Ю.М. Астроўскага, надрукаваным у газэце "Гродненский университет", што Астроўскі не кампетэнтны ў біяхіміі і памыляецца, выступаючы супраць шкоднага прадпрыемства, спасылаючыся, што Беларусі хопіць на 200 год Чарнобыльскай аварыі. Лучко лічыць, што беларусы загартаваныя і ім не зашкодзіць ні радыяцыя ні лізін, і бярэ ў абаронцы кампетэнтных вучоных Масквы Ленінграду, Пушчына, Рыгі.

Просты народ сапраўды не кампетэнтны ў шкоднасьці лізіну, не шмат разумее, а што лепей: ці забруджваць мікробнымі бялкамі паветра, спальваючы іх, ці труціць і без таго засьмечаны Нёман, зьліваючы ў ваду атруту...

Але колькі нахабства, самаупэўненасьці, калі кандыдат Лучко ставіць на мейсца акадэміка Астроўскага ў артыкуле "Не те аргументы" ў "Гродненском университете" за 29.03.89г.

Замест нявыбранага дэпутата па тэрытарыяльнай акрузе №560 прадпрыемствы Гародні адно перад другім вылучаюць сакратара абкама партыі Сямёнава У., які насуперак усім фактам сьцьвярджае, што завод не будуецца.

• Гродзенскі прадзільна-ніткавы камбінат носіць імя 25 зьезду КПСС. Цікава, ці не перашкаджае гэта яму працаваць у духу рашэньняў 27 зьезду?

• Калі Беларусь была падзелена на Заходнюю і Усходнюю, у Гародні ўзьнік тэрмін к а л а к у т ы. Так называлі беларусаў, якія сьвядома адракаліся ад сваёй мовы і культуры, ад свайго роду і народу, з карысьлівымі намерамі ператвараліся ў палякаў.

К а л а к у т ы так стараліся зьнішчыць беларускі дух, што ніводзін польскі чыноўнік-шавініст ня мог з імі зраўняцца ў нянавісьці да тутэйшых людзей... К а л а к у т ы яшчэ ня вымерлі!!!








Газэту рэдагуе Надзея з Безнадзейску, Праўдзель з Непраўдзельску, Сякеры Падлаўскі і Квач Захаляўскі